# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 6 (832) ГОД XVII БЕЛАСТОК 6 ЛЮТАГА 1972 г. ЦАНА 60 гр.




Вялікі ўздым наглядаецца зараз у мастацкай самадзейнасці на Бельшчыне. Актыўную дзейнасць пачалі драмгурткі ў Катлах, Саках, Агародніках, Стрыках і Піліках. Члены драмгуртка ў Катлах падрыхтавалі пад кіраўніцтвам настаўніцы Любы Карыцкай (яна і кіраўнік мясцовай васьмігодкі) дзве п'есы, а таксама некалькі песняў, гумараў, скетчаў і г.д. На Каляды ставілі яны пастаноўку ў сваёй роднай вёсцы. Выступленні іх усім гледачам вельмі спадабаліся. Прыгожым спевам зачароўваў прысутных на вечарыне саліст Мікалай Матвеюк. У суботу і нядзелю (16 і 17 студзеня г.г.) катлоўскія акцёры выступалі з праграмай у суседніх вёсках: Чыжах і Плёсках. Выступленні прайшлі з вялікім поспехам. — А ўсё пачалося ад прыезду ў нашу вёску інструктара бельскага аддзела БГКТ Веры Леанюк, — успамінае ўсхваляваная поспехам настаўніца Люба Карыцкая. — Вера Леанюк прывезла з сабою зборнічкі сцэнічных твораў і заахвоціла моладзь да мастацкай самадзейнасці. Ахвотных знайшлося 20 асоб. Моладзь папрасіла мяне дапамагчы. У мяне працы тае хоць адбаўляй, бо выконваю абавязкі кіраўніка школы і кірую працай гарцэрскага атрада, але на просьбу моладзі я здалася. І так дачакаліся мы першых дасягненняў і яны заахвоцілі нас да далейшай працы на ніве мастацкай самадзейнасці.

Члены драмгуртка ў Саках выступілі на сцэне мясцовага клуба селяніна з дзвюма п'есамі: «Суд» В. Галубка і «Вываражыла» Ю. Геніюша. Вечарына адбылася 8 студзеня г.г. Падрыхтоўцы мастацкай праграмы многа часу прысвяцілі Міхась Шаховіч (кіраўнік драмгуртка) і Марыся Шаховіч (мастацкі кіраўнік). Пастаноўку прыйшло глядзець больш 120 асоб з Сакоў, Сабуткі, Зубава, Пасынак, а нават прыезжыя жыхары Бельска. Сярод акцёраў найлепш выконвалі свае ролі Аня Шаховіч у п'есе «Суд» і Якуб Філовіч у п'есах «Вываражыла» і «Суд». Найпрыгажэй спявалі Аня Лазовік, сёстры Валя і Ніна Дамброўскія і Мікалай Петручук. Выконвалі яны песні на словы Віктара Шведа. Яшчэ ў гэтым месяцы самадзейнікі з Сакоў намераны выступіць з пастаноўкамі ў вёсцы Шчыты.

*(Працяг на стар. 4)*



Рэвалюцыйная дзейнасць на Гайнаўшчыне агульна вядомая. З разбудовай дрэвапрацоўчай прамысловасці павялічваліся рады рабочага класа. Узрастала і арганізаваная барацьба рабочых супраць эксплуататараў. Узнікаюць прафсаюзныя і палітычныя арганізацыі. У 1924 годзе адбылася першая забастоўка. Рабочыя хімічнай патрабавалі паляпшэння ўмоў працы. Потым забастовак было шмат. Супраць рабочых прымяняюць строгія пакаранні.

Асабліва драматычным быў для Гайнаўшчыны перыяд гітлераўскай акупацыі. Барацьба на смерць і жыццё ішла з ворагам ад першай хвіліны акупацыі. Акупант прымяняе самыя страшэнныя метады ўціхамірвання. Паліць вёскі і расстрэльвае жыхароў.

Перыяд умацоўвання маладой народнай улады на Гайнаўшчыне — гэта перыяд барацьбы з рэакцыйнымі бандамі.

Дзеячы Гайнаўшчыны даўно ўжо вынашвалі ідэю арганізавання ў Гайнаўцы музея, у якім можна было б сабраць дакументы мінулага. Намер свой ажыццявілі. 16 студзеня г.г. у Гайнаўцы адбылося адкрыццё Музея рэвалюцыйнага руху. Змяшчаецца ён у адпаведна прыстасаваным будынку па школе № I. Гайнаўскія ўстановы і прадпрыемствы не шкадавалі сродкаў, а арганізацыйны камітэт ставіў выканаўцам высокія патрабаванні. Планшы, шматлікія арыгінальныя дакументы і здымкі з'яўляюцца жывой гісторыяй Гайнаўшчыны.

Сцэнарый зрабілі мгр Зофія Тамчонак і мгр Барыс Нікіцюк. Усе экспанаты падрыхтаваў Музей рэвалюцыйнага руху ў Беластоку. Апякуецца музеем Польскае турыстычна-краязнаўчае таварыства.

Музей запрашае!

*Тэкст і фота Цаф — Р. Сянько*

## ЗАПРАШАЕМ У МУЗЕЙ







■ 20 студзеня адбылося пасяджэнне праграмна-арганізацыйнай камісіі VII з'езду БГКТ, якая абмеркавала шмат спраў, звязаных са з'ездам. Затым камісія падзялілася на два калектывы — праграмны і арганізацыйны. Першы калектыў узначальваецца сакратаром ГП Янкам Зенюком, а другі — членам прэзідыума ГП Уладзімірам Юзвюком. Падрыхтуюць яны з'ездаўскія матэрыялы і ўладзяць усе арганізацыйныя справы ўключна з прапановай паправак да статуту БГКТ.

■ Прэзідыум сямяціцкага аддзела БГКТ 20-га студзеня абмеркаваў і прыняў даклад на справаздачна-выбарную канферэнцыю аддзела. У другім пункце пасяджэння былі разгледжаны кандыдатуры ў праўленне аддзела, якія будуць запрапанаваны канферэнцыі, а таксама ўсе іншыя арганізацыйныя справы. У гэтым пасяджэнні прыняў удзел прадстаўнік ГП Кастусь Хлябіч.

■ 14-асабовы тэатральны калектыў з вёскі Сакі на Бельшчыне падрыхтаваў дзве п'есы «Суд» і «Вываражыла». З гэтымі п'есамі выступіў ён 22 студзеня ў Плёсках. Прыбыло на прадстаўленні больш як 200 чалавек.

■ Прэзідыум ГП супольна з гарадскім аддзелам БГКТ у Беластоку 23 студзеня арганізавалі ўрачысты вечар, прысвечаны 30-ай гадавіне Польскай рабочай партыі (ППР). У прэзідыуме сядзелі былыя члены ППР Хведар Савіцкі, Надзя Гайдук і Сяргей Гайдук. Адкрываючы ўрачыстасць, іх сардэчна прывітаў сакратар ГП Янка Зенюк. З дакладам выступіў старшыня ГП Міхась Хмялеўскі, а затым Сяргей Гайдук, які расказаў аб сваім удзеле ў партыйнай дзейнасці ў Гарадку. Пасля афіцыйнай часткі быў паказаны савецкі фільм «Чырвоныя лісці».

■ У памяшканні ГП 23 студзеня была арганізавана гарадскім аддзелам БГКТ ёлка для дзяцей, бацькі якіх з'яўляюцца членамі Беларускага таварыства. Дзед Мароз (быў ім Іван Філіпік), пасля гульняў дзяцей, спяваных імі песень і дэкламавання вершаў, уручыў усім падарункі.

■ Гуртон БГКТ у Плёсках на сходзе 23 студзеня пастанавіў утварыць тэатральны калектыў і падрыхтаваць п'есу «Сашко выбірае дарогу».

БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 158

# ПРАЗАІЧНЫЯ ТВОРЫ „БЕЛАВЕЖЫ"




Калі бярэш у рукі кнігу ці часопіс, заўсёды чакаеш знайсці ў іх нешта ўзбагачаючае цябе. З такім намерам я таксама прыступіў да азнаямлення з другім нумарам альманаху «Белавежа», які нядаўна выдала Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства, і ў сваіх надзеях не памыліўся. Гэтае выданне ў 200 старонак запрэзентавала фрагмент перакладу «Пана Тадэуша» А. Міцкевіча на беларускую мову, зроблены Браніславам Тарашкевічам у асноўным у 1928 годзе ў час яго знаходжання ў турме ў Вронках, успаміны Людвікі Войцікавай аб Максіме Багдановічу, прозу і паэзію семнаццаці аўтараў, якія пішуць у Польшчы на беларускай мове, рэпрадукцыі прац мастакоў.

Сённяшняе выказванне я хачу прысвяціць празаічным творам.

Некалькі год таму назад мы нараканлі на тэматычнае ўбоства нашай прозы, на недахоп твораў, прысвечаных сучаснасці. Цяпер жа тэматычны дыяпазон прозы даволі шырокі. У альманаху знаходзім апавяданні М. Гайдука, якія кранаюць гістарычную праблематыку X—XIII стагоддзяў; В. Склубоўскага, што датычаць міжваеннага часу; У. Дваракоўскага, В. Рудчыка і В. Склубоўскага, прысвечаныя пакаленню, увайшоўшаму ў грамадскае жыццё ў міжваенны час і перажыўшаму пакуты апошняй вайны, каб затым актыўна ўдзельнічаць у нашай сучаснасці, і, урэшце, найбольш багата прадстаўлены апавяданні аб людзях нашых дзён у М. Красоўскага, У. Паўлючука, С. Раманчука, В. Рудчыка і В. Склубоўскага.

І ў пошуках формы таксама заўважаем у «белавежцаў» некаторы зрух. Побач з пераважна традыцыйнымі ў пабудове апавяданнямі знаходзяцца тут таксама спробы ўвесці некаторыя канструкцыйныя змены, якія робяць твор больш напружаным, уздзейнічаючым на чытача, напрыклад, «Пацалункі Кастухі» В. Рудчыка ці «Восень жыцця» С. Раманчука.

У. Дваракоўскі ў «На світанні» і В. Склубоўскі ў «Забойцы» закранулі тэму злачынстваў, якія ўчыняла рэакцыйнае падполле ў 1944—1947 г.г. на Беласточчыне над тымі людзьмі, якія актыўна ўключыліся ў працэс пабудовы новага грамадства. Праўда, у У. Дваракоўскага тэма вырашана надта ж фрагментарычна, аўтар абмяжоўваецца толькі да паказу прычын, якія прымушалі сялян хапацца за зброю, каб даць належны адпор бандам. Затое ў В. Склубоўскага створаны больш паглыблены вобраз гэтай барацьбы. Бандзёрскія забойствы і рабункі не зацерліся з часам у памяці людзей, яны нават пасля дваццаці пяці год уздзейнічаюць на чалавечыя паступкі і паводзіны, даводзяць да трагедыі.

Наогул В. Склубоўскі запрапанаваў у альманаху добрую прозу. Амаль усе апавяданні гэтага аўтара глыбокія і хвалюючыя. Выключэннем сярод іх мо ёсць толькі «Сэрца маткі» і «Злодзей», у якіх матываванасць паступкаў герояў крыху аднабокая. Затое «Цюленевае футра» і асабліва «Марта» — рэчы, патрасаючыя ў сваёй вымове.

М. Красоўскі — наш народны творца — у «Небывалым балі» імкнуўся паказаць выхаваўчыя магчымасці старэйшага пакалення ў адносінах да маладых. Зрабіў гэта даволі ўдана, дасціпна, таксама, як і яго герой — старэйшы селянін — перакanaў свайго сына-кудлача, каб той падстрыгся.

С. Раманчук у «Восені жыцця» заглыбіўся ў адвечную праблему чалавецтва: ці варта жыць. Вырашыў яе не на карысць жыцця і, здаецца мне, што загубіў свайго героя — аўтара дзённіка — даволі нематывавана, хоць яго герой — гэта тыповы чалавек, якому цяжка знайсці сувязь з іншымі людзьмі.

В. Рудчык у сваіх апавяданнях «Жменя зямлі» і «Пацалункі Кастухі» закрануў дзве істотныя праблемы беластоцкай вёскі. У «Пацалунках Кастухі» знайшоў адлюстраванне пакутны шлях незаможнага сялянства ад парабкавання пры санацыі праз генену ваенных год і акупацыі да перамогі народнага ладу ў нашым краі. У «Жмені зямлі» аўтар закрануў цікавую і актуальную тэму старэння нашага сяла і неабходнае ў сувязі з гэтым развітанне старэйшых людзей з іх зямлёй, гаспадаркай, родным кутком. І хоць апавяданне не мае засцярог з мастацкага боку, аднак трактоўка тэмы здаецца мне ўсё ж у ім стэрэатыповая. Вельмі ж аднабакова паказаў у ім аўтар «гарадское вучонае» маладое пакаленне, якое нібыта толькі і чакае тых двухсот тысяч з продажу гаспадаркі, каб купляць сабе за іх футры, піяніна ды легкавыя машыны. Гэта погляд старэйшага пакалення. Ён не зусім адпавядае жыццёвай праўдзе. Маладым людзям, што працуюць у горадзе, таксама належыцца права на сваё жыццё, заслужаны адпачынак (і над Балатонам таксама), на вольную хвіліну. Не можа ж вечна вісець над імі абавязак парабкавання ва ўсе нядзелі ды водпускі на так званай «бацькаўшчыне», з якой і старым і маладым раней ці пазней усё ж трэба будзе развітацца. Напэўна, у жыцці здараюцца і такія выпадкі, як у апавяданні В. Рудчыка, але не яны з'яўляюцца тыповымі для нашай сучаснасці. Часцей за ўсё «гарадскія» забіраюць старых з сяла да сябе, не атрымаўшы ні зламанага граша з тых нібыта малаком ды мёдам плывучых двухсоттысячных «зарэчанак», апякуюцца бацькамі, даюць ім і стол і дом.

Канчаючы свае заўвагі над прозай, змешчанай у другім нумары «Белавежы», хацелася б выказаць пажаданне, каб аўтары спрабавалі сваіх сіл у стварэнні абшырнейшых празаічных палоцен, не абмяжоўваліся толькі да жанру апавядання. Некаторым з іх гэта ўжо пад сілу.

*Ігнат Снарскі*

* ✲ *

*Сярод спраў*

*жывых звычайных*

*мы не адной*

*дарогай крочым*

*і кругом свайго*

*шукаем*

*не знаходзім*

*а знаходзячы не знаем*

*ці пачатак быў*



*ці мэта*

*і далей брыдзем упарта*

*думкі гоняць*

*дакараюць*

*мы кагосьці выглядаем*

*нас чакаюць*

*даганяем*

*абыходзім.*

*Л. ТАНКЕВІЧ*

# У ГРУДЯХ НЭ КАМЭНЬ Б'Е

*Раз Маруся квіеты рвала,*
*Ванькін луг усёй здоптала.*
*Ванька — хлопэць нэжэнаты*
*Часто любів довж поспаты.*
*По музыках всё шалався,*
*Жэнытіся нэ збірався.*

*У той дэнь, як бы на зло,*
*На луг Ванъку прынэсло.*
*Зобачывшы луг помяты,*
*Став віновніка шукаты.*
*А Маруся ў туом часе,*
*Пуод мэжою сховалася.*

*І хоч Ваньку добрэ знала*
*То спокуойно нэ лежала.*
*Взявшы камэнчык-комок,*
*Удырыла ёго в бок.*
*Ванька ж вэльмі взрадовався,*
*Што з Марусёю споткався.*

*Замэсць вэльмі поругаты,*
*Той став шчіеро цыловаты.*
*Нэ пройшло і тры нэдіелі*
*А зробілі вжэй вэсіеле.*
*— Правда в туом на світеты е,*
*Што в грудях нэ камэнь б'е.*

*Ваня Кірызюк*






У задымленым пакоі трое мужчын нахілілася над ледзь асветленым лямпай сталом. — Вока, — ускрыкнуў адзін, з задавальненнем ляснуўшы картамі аб стол. Жылістая рука адным рухам згарнула са стала кучу дробных. У вачах шчаслІўца замільгацелі аганькі. Настала цішыня.

— Банкуй, — прашыпеў другі, падбіўшы пад сталом нядаўна выпітага «поў літра». Яго кулакі, канцыстыя і велізарныя, зацiснуліся аж да болю. Закурылі. Вочы прагна сачылі за рукамі раздаваючага карты і кучаю «драбнякоў», якіх усё прыбывала. Газоўка неяк прыгасла, запыхкала, але не згасла. За сцяною праз сон загаварыла Сцяпанава жонка...

— Ашуканства, — знянацку зароў канцавы Толік. — Ашуканства, давай грошы, — падаткнуў свой канцысты кулак пад нос Сцяпану. Затрашчаў стол, бразнула вядро з вадою і сыкнуў нехта, падаючы пад моцным ударам.

— Сцяпан, што ты? — з крыкам выбегла жонка, адцягваючы мужа. Акрываўлены Толік валяўся пад парогам у разлітай вадзе, дарэмна прабуючы ўстаць. — Адыдзі, — загарланіў муж, піхануўшы яе на печ. Задзынгала люшка і зваліўся саган. Кульгавы Юлек дрыжачымі рукамі шукаў шапкі. — Адыдзі... — выў Сцяпан, — не мяшайся. Біў яе па твары, руках, жываце...

...За сцяною заплакала дзіцё.

*Кастусь Бандарук*

# ТВАР



*гэта*
*(напішы сам*
*бо я сапраўды*
*не знаю)*
*рукамі думкі*
*дастаць да пяску*
*а потым*
*часаць вуснамі*
*валасы*
*прыбярэжных вербаў*
*скажам*
*Я Піў Жыццё*
*а ты толькі*
*будучы ангелам алкаголю*
*з'ядаў фарбу,*
*з вачэй дзяўчыны*

* ✲ *

*мы не скажам*
*сабе*
*смеху*

*між нашымі*
*словамі*
*СО, памірае*
*С, плача*
*Н, ужо ў жалобе*

*мы не скажам*
*сабе*
*трывогі*
*гэта ж*
*вяселле*
*Н, з О,*
*пажаніліся*
*мы не ўмеем*
*з сабой*
*гаварыць.*

* ✲ *

калі зямля
у валоданні
кары бяроз
я — сняжынкай
птушкаю зімы
гэта я
плачу мокрай ватай
разам з небам
гэта я
вецер — чуеш?
гэта я
з табою спяваю
жалобныя песні
я з табой — завіруха
танцую
я — усім
я — усім
толькі не сабой.

# Хрысціяне

усмешкай поспеху чаравікаў
на абразах у царкве
непрыкметна выціраем пыл
гляньце людзі
крыкнулі чаравікі
я тапчу вашыя абразы
людзі білі паклоны
людзі маліліся

ЗОСЯ САЧКО






## Гарочынскія дзяўчаты

Вёска Гарочына. Многа дзяўчат. Яны яшчэ ходзяць у падставовую школу: у сёмы і восьмы класы. Дзеці? О-го-го! Нядзеля. Кладка. На кладцы дзяўчаты. Маладзенькія і натхнёныя. Хвалююцца. Чакаюць? Каго?

Прыкметнае ажыўленне. На гарызонце паявіліся чорныя пункцікі. Рухаюцца і павялічваюцца. Паўзуць у напрамку гарочынскай кладкі. Акружылі. Гэта старэйшыя хлопцы з суседніх вёсак. Пасядалі сярод гарочынскіх дзяўчат. Сядзяць доўга. Аб чым гавораць — не ведаю. Якая ў іх можа быць супольная тэма?

Некаторыя пары адлучаюцца. Ідуць на забавы.

Адна гарочынская дзяўчына на Міколу танцавала з адным хлопцам у суседняй вёсцы цэлую ноч. Дамоў вярнулася яна на другі дзень. Да іншай зноў хлопец з калёніі Кленікі збіраўся ў сваты.

Прашу хутка надрукаваць.

*«Пільны з вёскі Гарочна»*

Ад цэнтра АБС: даследаваць, аб чым гавораць на кладцы гарочынскія падлёткі з малайцамі з суседніх вёсак і ўдакладніць, чаму хлопец, які збіраўся ў сваты, не здзейсніў свайго намеру.



*Гумар з барадою*

### ЗАВЯШЧАННЕ

Натарыус зачытвае сваякам памёршага завяшчанне:

— Маючы здаровы розум, усе грошы я патраціў перад смерцю...






*— А памятаеце, калі я ў вас вучыўся, вы мяне лічылі самым бесталковым у групе?*

### НЕ САРАМЕЙЦЕСЯ

— Вы акцёр? А я банкір. Мне сорамна прызнацца, але я не быў у тэатры ўжо дзесяць год.

— Не саромейцеся, — сказаў акцёр. — Я таксама не наведваў банка звыш дзесяці год.

## БЛІНЫ НА ВАРОТАХ

Скруціла Барыса
брыдота-лянота,
адбіла ахвоту
да ўсякай работы.
Затлушчаны Бора
гугнявіць Рыгору:
— Вось нам бы за мора,
не ведалі б гора.
Дапялі б да вілы
якойсьці Шарлоты.
Вісяць у Шарлоты
бліны на варотах.
Еш, колькі захочаш,
ніякіх турботаў,
а што да работы —
адно чаўкай ротам.

Не тое чаўпеш ты, —
азваўся тут Хведар. —
Адзін, каб ты ведаў,
бліноў тых адведаў.
Бадзяўся па свеце,
як Марка па пекле,
вятры яго білі,
даждыжы яго секлі.
Убачыў, нарэшце,
шукальнік на браме
хвалёныя тыя
бліны... на рэкламе.
Ясі іх вачыма,
каўтаючы сліну,
і сонца здаецца
намасленым блінам.
Зваліўся галодны
вандроўнік пад плотам
з плакатам на шыі
«Шукаю работу».

*Пятро Сушко*

### Талабалоўка

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 26 | 44 | 20 | | | |
| 10 | 35 | 4 | 33 | 2 | 27 | 45 | 13 | 31 | 7 |
| 42 | 11 | 29 | 9 | 34 | 3 | 28 | 38 | 14 | 32 |
| 18 | 36 | 12 | 22 | 47 | 16 | 41 | 21 | 39 | 8 |
| 43 | 19 | 37 | 5 | 23 | 48 | 17 | 46 | 15 | 40 |
| | | | 30 | 6 | 24 | 49 | | | |

Трыма простымі лініямі раздзяліце цыфравую табліцу на чатыры роўныя прамавугольнікі, з якіх злажыце квадрат. У пустую клетку, якая ўзнікне ў цэнтры квадрату, упішыце лік так, каб лікі складзеныя па гарызантальных і вертыкальных лініях квадрата, далі адну і тую ж суму. Які лік трэба ўпісаць у цэнтр квадрата?

* ✲ *

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара: 12 і 16.*

### КОЛЬКІ ЧАСУ?

Малады гутарыць са старым сябрам.

— Як ты думаеш, стары, колькі спатрэбіцца часу, каб прывучыць жонку да безагаворачнага паслушэнства?

— Дарагі мой! Я не настолькі стары, каб ведаць адказ на гэтае пытанне. Я ж жанаты ўсяго толькі сорак сем год!

### ТЭЛЕБАЧАННЕ

— Нішто так не павышае культурны ўзровень, як тэлебачанне.

— Сур'ёзна?

— Так. Напрыклад, як толькі ў мяне дома хто-небудзь уключае тэлевізар, я адразу іду ў другі пакой і чытаю.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Надзі Нікалаюк, Веры і Марысі Манцюк з Мікуліч змяшчаем песню

## Ballada peruwiańska

Gdy słońce wschodzi, hen, nad piękny kraj,
gdzieś wśród łąk, gdzieś wśród malw
daleki płynie śpiew.
I pyta ktoś, i nie wie nikt, a to
moja pieśń, szalona myśl,
że ptakiem chciałam być.
**Refren:**

Ech, ptaku mój, ty nie wiesz sam,
jak chciałabym twe skrzydła mieć!...
jak chciałabym wśród chmur twych żyć!...
jak chciałabym twe serce mieć!...
Nie widzieć łez.

Gdy słońce gaśnie, gdy zapadnie mrok,
zniknie też smutna moja pieśń.
stęskniona myśl...
I spyta ktoś, nie zgadnie nikt, a to
mój był głos, szalona myśl,
że ptakiem chciałam być.
**Refren:**

Ech, ptaku mój ty nie wiesz sam,
jak chciałabym twe skrzydła mieć!...
jak chciałabym wśród chmur twych żyć!...
jak chciałabym twe oczy mieć!...
nie widzieć łez i zła.

### ГАСЦІННАСЦЬ

Пайшоў зяць да цёшчы ў госці. Яна яго пачаставала ўсялякімі ласункамі.

Зяць пытае:

— Мама, а што ж гэта вы мне так дагаджаеце?

А цёшча адказвае:

— Чорта бы табе, мой зяціку, дагаджаў, калі б твая жонка — ды не маім дзіцём была.

### ДЗЕДАВА ЖУРБА

— Чаму, дзеду, плачаце?

— Ды праклятая баба сноп саломы парэзала.

— Гэта і ўсё?..

— Ды не... З'елі тую салому коні...

— Ну і добра, — галодныя не будуць.

— Дзе ж яно добра, калі ў тым снапе я тысячу злотых схаваў.

### ШЧЫРАЯ СЯБРОЎКА

— Манечка, хочаш я табе раскажу, што мне сказаў мой новы знаёмы?

— Не, не трэба, я не люблю слухаць розныя плёткі.

*Паветраныя падушкі — гэта так сучасна.*

*ПРАВЕРКА РАХУНКУ*



*— Цікава: напіліся мы, а двоіцца ў вачах у афіцыянта.*

### СПАКОЙНЫ

— Як вы можаце спакойна спаць, маючы столькі даўгоў?

— А чаму ж бы не? Дык жа тыя, каму я вінаваты, прыходзяць толькі ўдзень.

### НЕ ВЫЙДЗЕ

Пяцігадовы Янка гарэзнічае. Маці пагразіла, што абмяняе яго на добрага і паслухмянага хлопчыка.

— Нічога з гэтага не выйдзе, — сказаў Янка.

— Чаму?

— А хто захоча мяняць добрае дзіця на такога, як я.

## ДОБРАЯ ПАСЛУГА

### БАЙКА

Пад маладзенькай елкай, дзе заяц зрабіў сабе логавішча, зазвінеў тэлефонны званок.

— Алё, гаворыць з «Бюро добрых паслуг». Вы заказвалі арэхі? Дык мы не ведаем: падсмажыць іх вам ці прыслаць у сырым выглядзе?

— Вы, мабыць, памыліліся і замест белкі пазванілі мне. Я заказваў кілаграмчык моркаўкі.

— Выбачайце.

Праз нейкі час зноў зазваніў тэлефон.

— Алё, мы з «Добрых паслуг». Вы прасілі зерня ячменю? Вам яго змалоць?

— Вы набралі не той нумар. Званіце хамяку. Я заказваў...

— Выбачайце, мне некалі размаўляць. Я вельмі занята.

Зноў званок.

— Алё, вас турбуюць «Добрыя паслугі». Вы заказвалі смажанага зайца, нашпігаванага часнаком і свіным салам. Выкананне заказа крыху затрымліваецца. Зараз паляўнічыя знайшлі па слядах заечае логавішча і акружылі яго з усіх бакоў...

У зайца здарыўся інфаркт...

*М. Сямёнаў*




### КОЛЬКІ КАШТУЕ АЎТОГРАФ

Бельгійскі прафесіянальны гоншчык Эдзі Меркс даўно атрымаў славу мацнейшага ў свеце. Ён быў пераможцам «Тур дэ франс», шматдзённай гонкі «Джыро д'Італія», іспанскай «Буэльты» і іншых папулярных спаборніцтваў. Антрэпрэнёры многіх краін ганяюцца за Мерксам, абяцаючы яму экстра-ганарары. Заробкі яго вылічваюцца дзесяткамі мільёнаў франкаў.

Але Эдзі ўсё мала. Для папаўнення свайго банкаўскага рахунку ён згаджаецца на любыя камбінацыі, нават калі яны прыносяць яму салідныя грашовыя кушы зусім не за перамогі на шашы.

Аднойчы Меркс праездам з Італіі спыніўся ў Страсбургу, і там быў разыгран такі спектакль. У прысутнасці шматлікіх фотакарэспандэнтаў, апаратараў кіно і тэлебачання гоншчык урачыста прымераў новыя велатуфлі, зробленыя па яго заказу вядомай заходнегерманскай фірмай «Адыдас». Туфлі Мерксу спадабаліся і атрымалі яго «благаслаўленне» на запуск у вытворчасць. Але галоўнае ў іншым: на туфлях збоку будзе росчырк пяра дзеалавітага «гіганта дарогі».

Само сабой зразумела, фірма «Адыдас» кампенсавала гэту «працу» чэкам на 100 тысяч заходнегерманскіх марак.

Вось колькі можа каштаваць адзін аўтограф!

### РЭКОРД

Члены рэлігійнай абшчыны ў Сан-Луі (ЗША), змяняючы адзін аднаго, прачыталі біблію за 79 гадзін 15 мінут без перадышкі. Тым самым яны на цэлых 45 мінут палепшылі рэкорд, устаноўлены раней ў горадзе Канкі (штат Ілінойс).




*Зроду не курыць, а дым пускаць у вочы людзям вялікі спецыяліст.*